


*З родным словам кроў не стыне…*
***А. Бабаед***

# КАРДОН

**№5**

***снежань 1999***

**Інфармацыйна – публіцыстычны бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

## *ВІНШУЕМ*

***З КАЛЯДАМІ***

***З НОВЫМ ГОДАМ***

***З НОВЫМ СТАГОДДЗЕМ***

***З НОВЫМ ТЫСЯЧАГОДЗЕМ***



## НАВАГОДНЯЯ НОЧ

Ад водбліскаў, ад водгукаў, ад воклікаў той бессані
Пакрыўдзіўся, спалохаўся бадзяга-ветравей.
Адчужаны, засмучаны над прорвай і над безданню
Ён жаліўся і скардзіўся, гарэза-дабрадзей.

Завея забаўлялася з тужлівай катрынкаю,
Запрэжкаю імчалася кудысьці у абшар.
Упрыгожвала, абвязвала карункавай хусцінкаю
Палі, лугі маўклівыя і ўвесь лясны гушчар.

Гуляла так нахабна зімовая свавольніца,
Каралі серабрыстыя раскідала ў лясах.
Расказвала прывабліва мне байкі, забабонніца,
Пакінула падманліва след белы ў валасах.

Лагчыны закалыхвала, какетнічала з месяцам,
Вадзіла са сняжынкамі гуллівы карагод.
Ды потайкам, у прыцемках сняжынкаю замецянай
На санках назалочаных прывезла Новы год.

*Наталля Галавач*

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У Віцебску прайшла абласная канферэнцыя грамадскага аб'яднання "Таварыства Беларускай мовы імя Ф.Скарыны".Прысутнічалі дэлегаты з 14 раёнаў, кіраўнік рэспубліканскай рады ТБМ Алег Трусаў, літаратары, выкладчыкі ВНУ Віцебска.

Са справаздачным дакладам выступіў старшыня абласной рады Іосіф Навумчык. У дакладзе была адзначана плённая праца многіх сяброў ТБМ, у тым ліку і нашай Бешанковіцкай суполкі. Адным з важных накірункаў дзейнасці ТБМ застаецца падтрымка беларускамоўнага навучання. На Віцебшчыне толькі 26% ад агульнай колькасці вучняў займаецца на беларускай мове. У асноўным гэта невялікія сельскія школы, у гарадах і пасёлках сітуацыя з беларускамоўным навучаннем вельмі трывожная. У Оршы няма ніводнага беларускамоўнага класа. У Віцебску ў першы клас з беларускай мовай навучання пайшло толькі 1,4% дзяцей.

Канферэнцыя адобрыла ініцыятыву Гарадоцкай рады ТБМ, якая сумесна з аддзелам адукацыі аб'явіла конкурс сярод настаўнікаў на лепшага рупліўца роднага слова.

Алег Трусаў расказаў аб планаваных мерапрыемствах ТБМ на 2000 год. Адна з галоўных спраў – адкрыццё нацыянальнага ўніверсітэта. Гэта будзе першая вышэйшая навучальная установа на беларускай мове, якая пачне рыхтаваць спецыялістаў розных галін, у тым ліку геолагаў.

У перапынку прысутныя мелі магчымасць атрымаць узоры беларускамоўных кніг, якія выдае таварыства, набыць аўдыёкасеты з запісамі беларускамоўных гуртоў і выканаўцаў

Напрыканцы канферэнцыі была абрана рада, якую зноў даручана ўзначаліць Іосіфу Навумчыку.

*В.Гракун*
кіраўнік Бешанковіцкай суполкі ТБМ

## БЕЛАРУСЫ

Дзе сонечных стром,
Дзе дарожных выбоін
Заўжды беларус-
Гараты, і воін.
Стаяць саснякоў
Астравы ў тумане…
На згоне вякоў,
Мо мацнейшымі
станем?

***А. Бабаед***



## *ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ*

Я – з Заходніх губерняў
Мінулай Расійскай імперыі,
Тут "великий могучий язык"
Моцна стаў, на вякі.
Ды душою і сэрцам
Ніяк не магу я паверыць,
Што да роднае мовы
Народу закрыты шляхі.

Я шукаю дарогу туды,
А трапляюцца сцежкі.
Усе шляхі зараслі,
Бальшакоў і гасцінцаў няма!
У краіне Купалы і Коласа-
Гора бязмежнае:
Ходзяць крыўда і боль,
Ходзяць роспач і страта сама.

Паважаны спадар прэзідэнт!
Як магло так адбыцца,
Што не здолелі Вы
Мову края свайго зберагчы?
Вы не лічыце ўжо за абразу
На мове чужынцаў
Свае гутаркі весці
І дзетак у школах вучыць.

Ёсць краіна, а мовы спрадвечнай
Няма ва ўжытку!
Ды ў любым ваяводстве
За гэта падымуць на смех.
Наша мова была
Шчэ ў Скарыны з Сапегам у спытках
І яе не ўжываць
Гэта нават не сорам, а грэх!

Вам, шаноўны, яе падтрымаць
Не наказ дэпутацкі:
Гэта – енк, гэта – стогн, гэта - крык
Пакаленняў усіх
Што ляжаць ці на Грунвальдскім полі,
Ці полі Аршанскім
І нашчадкі чые яшчэ маюць
Сумленне і слых.

На той мове, спадар прэзідэнт,
Вы нядаўна кляліся,
Ды бяспамяцтва Ваша
Усіх нас вядзе да бяды.
Аддавайце ж даўгі!
Не глуміце святую вялікасць
Найважнейшага скарбу,
Што быў, ёсць і будзе заўжды!

*Г. Станкевіч*

# СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН

У першыя гады савецкай улады Случчына была асяродкам беларускага нацыянальнага руху. У 1918 годзе ў Слуцку быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт на чале з Паўлам Жаўрыдам. Актыўную пазіцыю займала інтэлігенцыя.

Падчас савецка-польскай вайны 1918-1920 годоў тэрыторыю Случчыны займалі то польскія, то чырвоныя войскі. У кастрычніку 1920 года ў Рызе была падпісана дамова, паводле якой Расія адмаўлялася ад Заходняй Беларусі на карысць Польшы. Фармальна Заходняя Беларусь была часткай Беларускай ССР, але савецкая дэлегацыя ў Рызе нават не дапусціла кіраўніка Савецкай Беларусі А. Чарвякова да перамоваў.

Польскія войскі перадалі ўладу ў Слуцку Беларускаму нацыянальнаму камітэту. У валасцях і вёсках былі абраны адпаведныя камітэты. Сялянства вфыступала за сваю незалежную дзяржаву – Беларускую Народную Рэспубліку пад кіраўніцтвам свядомай беларускай інтэлігенцыі. Яны былі ўпэўнены, што Беларусі не патрэбен саюз ні з Польшай, ні з Расіяй.

14-15 лістапада ў Слуцку быў праведзены з'езд прадстаўнікоў , прысутнічала 107 дэлегатаў ад горада Слуцка і 15 воласцяў. Зала была аздоблена бела-чырвона-белымі сцяжкамі. Была прынята рэзалюцыя, у якой дэлегаты віталі Найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заявілі катэгарычны пратэст супраць Савецкай улады на Беларусі, як " чужацкай". Было прынята рашэнне падняць паўстанне "супраць акупацыі за незалежную Беларусь"

Пачалося спешнае фарміраванне войска і арганізацыя розных цывільных устаноў. 21 лістапада Рада Случчыны выдала дэкларацыю, якая заклікала на барацьбу за незалежную Беларусь. Была сфарміравана брыгада стральцоў, але зброі было мала.

Баявыя дзеянні Слуцкіх паўстанцаў пачаліся 27 лістапада і скончыліся 28 снежня 1920 года. Чырвоная армія была мацнейшай і паўстанцаў адцяснілі на польскую частку. Але Случчына яшчэ доўга вяла барацьбу партызанскімі метадамі.

Слуцкі збройны чын, беларускія патрыёты, змагаліся за сваю незалежнасць супраць далучэння да Расіі са значна пераважнай узброенай сілай. Шанцаў на перамогу ў іх не было, але была воля, было імкненне адстаяць сваю свабоду і незалежнасць Беларусі. Таму дзень 27 лістапада – Беларускае нацыянальнае свята. Вось як напісаў аб тых падзеях Алесь Міхальчанка:

*Палякі тут, а тут – бальшавікі.*
*І горад Слуцк на паласе нейтральнай.*
*А па-над гэтай паласой лунае:*
*-Быць Беларусі вольнай на вякі !...*

*Паводле А Грыцкевіча*
*прафесара, доктара гістарычных навук.*

# ЦАРКВА Ў ДАБРЫГОРАХ





19 снежня адбылося святочнае набажэнства ў Свята-Мікалаеўскай царкве ў вёсцы Дабрыгоры з нагоды прастольнага свята Свяціцеля Мікалая-Цудатворца. Набажэнства правёў іерэй Анатоль, які прыехаў з Віцебска, бо свайго настаяцеля царква пакуль што не мае.

Вернікі сабраліся з навакольных вёсак і з Бешанковічаў. Ужо ў аўтобусе на Асавец адчувалася атмасфера свята, пасажыры віталі адзін аднаго, а на прыпынку ў Дабрыгорах выйшлі амаль усе і накіраваліся ў сярэдзіну вёскі, дзе на ўзгорку прываблівa свяціўся яркімі фарбамі сярод зімовай вясковай шэрасці аднаўлены будынак царквы. Першае ўражанне – здзіўленне і захапленне. Замест закінутай, разбуранай, зарослай бур'янам шэрай будынiны ўзвышаўся сапраўдны храм цацачнай прыгажосці з двума цыбульчатымі купаламі над галоўным будынкам і над званіцай. Будынак драўляны, гарызантальна абшаляваныя ярка-блакітнага колеру сцены рытмічна расчляняюцца вертыкальнымі белымі стойкамі. Агароджа, брамка з кованымі, нібы старадаўнімі, ручкамі, зручны ганак з поручнямі і дахам, нават валасцёкавыя трубы сведчаць, з якой настойлівасцю і гаспадарлівасцю папрацавалі тут майстры. Унутранае ўбранства без залішняй раскошы і пазалоты, але таксама з густам і любоўю афармленае, чыстае, светлае. Шмат ікон, самая вялікая і значная сярод якіх – Святы Мікалай-Цудатворац. Ён заступнік і апякун царквы, у дзень яго памяці, як і заўсёды, ля гэтай іконы запалена асабліва шмат свечак. Драўляная падлога, абложаная пліткай печка ля ўваходу, ручнікі і карункі ствараюць дамашнюю утульнасць і цяпло.

Першае ўпамінанне аб Дабрыгорскай царкве датуецца 1840 годам, тады тут быў манастыр. У савецкі час царкву і яе святароў напаткаў трагічны лёс. Царкву закрылі, апустошылі. Да вайны ў ёй быў клуб, пасля - склад і нават млын. У апошнія гады – поўнае запусценне, пакуль не прывёў Бог да гэтых сцен чалавека-дзівака, у якога хапіла смеласці, настойлівасці і працавітасці, каб аднавіць святыню.

Выпадкова, ці не, але імя гэтага чалавека - таксама Мікалай. Мікалай Львовіч Бондар пераехаў у Бешанковічы пасля Чарнобыля з-пад Нароўлі.Сям'я вельмі набожная, усе пакаленні яе нават у самыя цяжкія часы трымаліся праваслаўнай веры. Маці Варвара Ільінічна безумоўна аб'ядноўвае ўсю радню. І ў царкве разам з ёй і дзеці, і пляменнікі, і ўнукі. У гэтым родзе ніколі не згасаў агеньчык веры, таму і дзеці выраслі працавітымі, сумленнымі і адухоўленымі. Зараз ужо каля Мікалая ўецца, як верабейка, ягоны дзевяцігадовы сынок Ілля. Хлопчык не навічок у царкве, яму ўсё тут прывычна і знаёма, з дзіцячай непасрэднасцю ён увесь час пры справе: то дзверы зачыніць, то запаліць патухлую свечку, то здымае агаркі, а то замірае поруч з бацькам і слухае святара.

Ідэя аднавіць царкву ўзнікла ў Мікалая Бондара летам дзевяноста пятага года. Родныя падтрымалі.Пайшоў спачатку да настаяцеля Бешанковіцкай царквы айца Віталія, потым разам з ім паехалі ў Віцебск да епіскапа Дзімітрыя. Атрымаўшы блаславенне епіскапа, Мікалай заняўся зборамародкаў. Хадзілі па дамах і кватэрах, нават стварылі канцэртную групу , давалі дабрачынныя духоўныя канцэрты, збіраючы ахвяраванні на царкву. Дапамагалі ў гэтым у першую чаргу родныя сёстры Вольга і Іна, стрыечная сястра Вольга Скварчэўская. Яны зараз так цудоўна спяваюць у царкоўным хоры. Будаўнічыя матэрыялы рыхтавалі самі, пілавалі лес з кораня, трылявалі яго,рабілі дошкі. Тут на дапамогу прыйшлі бацька Ілля Мікалаевіч і дзядзька Аляксей Ільіч Бондар, браты Юрый і Аляксандр, а таксама Аляксандр Караткоў, Сяргей Здор,Аляксандр Скачок, Георгій Станкевіч, Алена Шняк, Ілля Іваноў і іншыя, усіх пералічыць проста немагчыма. Больш за ўсіх працаваў сам Мікалай. Аднаўленне царквы зрабілася сэнсам яго жыцця, усе свае сілы ён аддаваў гэтай справе. Колькі прыйшлося хадзіць і ездзіць у пошуках сродкаў і матэрыялаў, ён расказваць не любіць.Дапамагалі сродкамі і тэхнікай амаль усе прадпрыемствы і гаспадаркі нашага раёна, а таксамі Віцебскія, Полацкія, Мінскія.Працы было вельмі шмат. Але ўжо вясной 1998 года ў Дабрыгорскай царкве адбылося першае богаслужэнне.Свята-Мікалаеўская царква – другі дзейнічаючы праваслаўны храм у нашым раёне. Вакол царквы склалася кола прыхаджан, паяднаных агульным настроем, духоўнасцю, якое паступова пашыраецца. На жаль, мала наведвае царкву жыхароў самiх Дабрыгораў.Цяжка гэта паставіць ім у віну, зараз у вёсках жыве пакаленне, народжанае і выхаванае ў гады самага жорсткага ўціску царквы .

Мікалай Бондар зараз стараста Дабрыгорскай царквы.Свае заслугі на яе аднаўленню не прызнае, кажа, што зрабіў усё з Божай і людской дапамогай. Ён вельмі сціплы чалавек, і жыве ўжо новай ідэяй – не дае спакою яму , што пасля трагічнай смерці айца Аляксандра засталася неадбудаванай царква ў Уле, хоча узяцца за яе.

В.Гракун

# ДАРОЖНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ.

**Частка трэцяя. ГЕРМАНІЯ.**



Падвор'е нямецкага фермера

Тое, што ты ў Германіі, зразумееш адразу, бо нямецкі аўтабан не зблытаеш нават з адмысловай польскай дарогай. Чысціня і парадак ва ўсім, пачынаючы з чысцюткіх бясплатных прыдарожных прыбіральняў у якіх непрывычна адсутнічае непрыемны пах, затое прывычна прысутнічае неабходная папера.

Але галоўнае ў Германіі зразумела не гэта. Месяц, праведзены ў знаёмага фермера, асабістыя назіранні, газеты, тэлебачанне, шматлікія размовы і спрэчкі па розных пытаннях, далі багаты прастор для параўнанняў і высноў.

Германія – краіна тэхналогій і стандартаў. Гэта значыць, што ў любой галіне гаспадаркі існуе інтэнсіўная разумная тэхналогія, якая дазваляе вытрымаць стандарты на велізарную безліч выраблямай прадукцыі.

"Мой" гаспадар вырошчвае свіней. Свінства гэта, у колькасці больш за 1000 галоў, у тым ліку 100 свінаматак, знаходзіцца побач з яго двухпавярховым домам, але не выдае сябе ні віскам, ні пахам.

Амаль увесь корм гаспадар рыхтуе сам са сваіх палеткаў. Уражвае ураджайнасць: азімы ячмень – 80 ц/га, азімая пшаніца – 100 ц/га, кукуруза на зерне – 120 ц/га. 3 сарака гектараў пасеваў атрымліваецца 400 тон чыстага зерня, прымесяў зелені ў ім проста не бывае. Гэты ўраджай складаецца з мноства састаўляючых: ворыва праводзіцца толькі абаротным плугам, адразу па ворыву можа ісці камбінаваны агрэгат з сеялкай, сеў вядзецца толькі з тэхналагічнай каляінай, якая затым выкарыстоўваецца 3 – 5 разоў для ўнясення гербіцыдаў, фунгіцыдаў, інсектыцыдаў, рэтардантаў і ўгнаенняў. Працоўны час ніколі марна не губляецца, усё выконваецца ў аптымальныя тэрміны. Высокая хімізацыя земляробства пры высокай тэхналагічнай дысцыпліне не прыносіць шкоды навакольнаму асяроддзю. Каля гэтых пасеваў, каля дамоў я часта бачыў зайцоў і вавёрак, фазанаў і курапатак, вожыкаў і мноства розных малых птушак. Ніхто не бегае за імі з палкай ці стрэльбай, каб упаляваць.

Цікавая тэхналогія ўборкі. Прама на полі пасля абмалоту, збажына мелецца на муку з дабаўленнем кансервантаў і мука захоўваецца да новага ўраджаю.

На корм свінням гатуецца сумесь. Для прыгатавання 500 кг корму для свінаматак бярэцца восем кампанентаў: 50 кг клейкавіны, 20 кг дрожжэй, 25кг касцяной мукі, 70кг соевага шроту, 20кг мінеральных рэчываў, 15 літраў алею і 300 кг пшанічнай і ячменнай мукі.

Адпаведны і вынік такога кармлення і догляду – каля 120 тон высакаякаснай свініны ў год. І гэта вынік працы аднаго чалавека!
Гаспадарчыя пабудовы абстаўлены так рацыянальна, што на кармленне 1000 галоў свіней штодня затрачваецца ўсяго толькі каля гадзіны працоўнага часу.

* * *

Калі я вярнуўся ў родную Белрусь, была ўжо глыбокая восень. Вярнуўшыся з краіны-казкі, мне ўсёж хацелася плакаць ад шчасця, што я дома, што я бачу роднае асенняе неба і позція кветкі, расцалаваць кожны лісточак з бярозы, які, пакінуўшы сваю галінку доўга яшчэ не знаходзіць сабе прытулку на зямлі. І хоць балюча было бачыць убогія хаціны ў роднай вёсцы і пакрытыя шурпатымі мазалямі жончыны рукі, але ў душы яшчэ трапятала надзея, што і мы калі-небудзь зажывём лепш, будзем "людзьмі звацца".

***Г. Станкевіч***

АНЕКДОТЫ

* * *

На нарадзе абмяркоўваецца становішча ў жывёлагадоўлі.
- Кароў нечым карміць, акрамя прывазной саломы. Якія будуць прапановы?
- Пафарбаваць лямпачкі ў зялёны колер, няхай думаюць, што гэта сена.

* * *

Ніксан пытае ў Брэжнева чаму савецкія рабочыя не бастуюць. Брэжнеў павёз яго на завод і кажа рабочым:
- Заутра вам будуць плаціць удвая менш! (Апладысменты)
- Будуць адменены выхадныя! ( Апладысменты)
- Кожнага дзесятага будуць вешаць! ( Апладысменты і пытанне: " Вяроўку сваю прыносіць, ці прафкам забяспечыць?")

" Кардон " – інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Віцебскай абласной Рады " Таварыства беларускай мовы" імя Францыска Скарыны ( для Бешанковіцкага раёна).Выходзіць пры падтрымцы Віцебскай філіі Фонду падтрымкі дэмакратычных ініцыятыў імя Льва Сапегі. Рэдкалегія: В. Гракун, А. Бабаед, Г. Станкевіч.Наклад 299. Распаўсюджваецца бясплатна. № 5, снежань 1999.